


Трансметраполітэн №18
пераклад:
Артур Барадачоў
афармленне:
Сяргей Козыраў

vk.com/comics_by




WARREN ELLIS writes and DARICK ROBERTSON pencils

# Год вырадка.
# Частка 6: Вырадак

RODNEY RAMOS inker · NATHAN EYRING color & separations · CLEM ROBINS letterer · CLIFF CHIANG ass't editor · STUART MOORE editor

TRANSMETROPOLITAN created by WARREN ELLIS & DARICK ROBERTSON

TRANSMETROPOLITAN 18. February, 1999. Published monthly by DC Comics, 1700 Broadway, New York, NY 10019. POSTMASTER: Send address changes to TRANSMETROPOLITAN, DC Comics Subscriptions, P.O. Box 0528, Baldwin, NY 11510. Annual subscription rate $30.00. Canadian subscribers must add $12.00 for postage and GST. GST # is R125921072. All foreign countries must add $12.00 for postage. U.S. funds only. 
Printed in Canada.
DC Comics. A division of Warner Bros.–A Time Warner Entertainment Company

• JENETTE KAHN, President & Editor-in-Chief • PAUL LEVITZ, Executive Vice President & Publisher • KAREN BERGER, Executive Editor • RICHARD BRUNING, VP-Creative Director • PATRICK CALDON, VP-Finance & Operations • DOROTHY CROUCH, VP-Licensed Publishing • TERRI CUNNINGHAM, VP-Managing Editor • JOEL EHRLICH, Senior VP-Advertising & Promotions • LILLIAN LASERSON, VP & General Counsel • BOB ROZAKIS, Executive Director-Production • BOB WAYNE, VP-Direct Sales •




Спайдар, выбачай. Можаш уявіць, што ў мяне за адзін дзень здарылася з-за гэтых выбараў...
Віта, я папярэджваю. Я пачынаю капаць пад Фрыха.
Я не магу доўга гутарыць, Спайдар... У мяне сустрэча.
Цудоўненька. Я проста жадаю папярэдзіць.
Трэба будзе паабедаць пасля ўсяго гэтага. Ты ды я.
Было б шыкоўна.
Бывай.
Бывай.
"Да пабачэээння" "Да пабачэээння"
У цябе **праблемы**, мая гідкая асістэнтка? І чаму **цябе** гэта ўвогуле хвалюе?
Нічога не было!
Што?
Забі зяпу! Дай цыгарэту!


Пачаць даследаванне! Уключыць машыны!
Цісні кнопку, Ігар! **Цісні маркітаваную кнопку**!
Тое, што мы зараз робім называецца **журналісцкім расследаваннем**. Некалі гэта займала месяцы і гады – давесці адно расследаванне да розуму.
Зараз гэта займае гадзіны. І ведаеш чаму?
Не таму, што мы фантастычна развітыя. Не таму, што мы ўвогуле не разумней за пенісы.
А проста таму, што ніхто зараз гэтым не займаецца. І ніхто гэтага не чакае.
Калі я кажу каму-небудзь як Віта, што буду капаць, яна палічыць, што я буду прачэсваць прэсу.
Але мы будзем збіраць і сартаваць тоны інфармацыі – а потым створым з усяго гэтага сваю гісторыю.


У вас званок.
А ты мілей за маю апошнюю сакратарку.
Проста я не звяртаю ўвагу на тое, што вы разглядаеце мае грудзі.
Ройс, гэта Спайдар!
Слупок ідзе выдат-на! Хіба ты не рады, што я прымусіў цябе асвятляць вы...
Ройс, мне патрабуюц-ца грошы на хабар.
Наво-шта?
Таму што Ўсявышні размаўляў са мной. Бог сказаў: "Сын мой, ты павінен даведацца, хто ўзначальвае кампанію Ўсмешлівага". І я адказаў...


Штосьці яны не вельмі шыфруюцца.
Яны шыфруюцца як могуць. Нар-мальна.
Але ў мяне паўсюль ёсць знаёмыя. Сярод іх воблака мексіканскіх нанаработаў, якое мне абавязана...
...І палітычны дырэктар, які стаў пушэрам з-за карыснай цікавасці...
...І чалавек, які нават яшчэ не існуе ў рэзервацыі Фарсайт...
І ўсе яны на адлегласці аднаго тэлефоннага званка. Дзякуючы ім, я ведаю, дзе шукаць.
Ну і ў дадатак у мяне ёсць хакерскія праграмы, пра якія 99% ахоўных агенцтваў нават і не чулі.
Але, праўду кажучы, кантакты важней за ўсё.
Пачатковы пошук па Фрыху, ДС, скончаны. =MUCKRAKER v. 2.0 =
Ну, гэта не тое, што я чакаў.
Хапай плашч.


Большую частку нашай прадукцыі мы прадаем Лонг Піг, зразумела. Лёгкія грошы. Мы проста вырошчваем ствол галаўнога мозгу. Для аўтаномнасці.
Велічыня мозгу не ўсплывае на густ.
Я зразумеў гэта, містар Карыёз...
Але я тут, каб даведацца пра больш складаную працу, якую вы рабілі некалькі гадоў таму.
Вы працавалі па кантракце з кампаніяй "HOUSEPAINTING PROPRIETY", містар Карыёз, але гэта толькі **фасад**.
Давайце начыстую. Я навёў даведкі.
Я ведаю, што вы прадалі гэта, як вы можаце сказаць, бізнэсоўцам-збачэнцам, якія аддаюць перавагу палюбоўніцам з малай часткай шэрага рэчыва.
Дык будзьма сумленнымі: вы стварылі ферму вырадкаў, гэта не зробіць вам добрай рэпутацыі.
Мне неабходна справаздача той складанай працы. Усё, што датычыцца яе. І мабыць заўтра мяне насягне выбарчая амнезія.




Божа, Спайдар, што мы робім?
Мы кажам праўду. Так гучна, як толькі можам.
Я не разумею. Як мы можам гэта рабіць?
А чаму не?
Гэта знішчыць кампанію Ўсмешлівага.
Ну, у гэтым і была **ідэя**.
І яшчэ гэта скампраметуе тваю сяброўку Віту Северн. Яна клялася, што ні яна, ні Калахан не маглі аддаць саўдзельнікам Хелера месца ў Белым доме.
Праўду, Елена. Не мае значэння якую.
Не мае значэння, хто папакутуе?
Не магу сабе дазволіць клапаціцца аб гэтым.
Хопіць на мяне так глядзець. Так, гэта можа нашкодзіць Віце. Так, гэта практычна прывядзе да перавыбрання Звера.
Але у мяне няма выбару.
Гэта няправільна.


Прабачце, мы б жадалі прайсці на прэс-канферэнцыю тут...
Не.
Але мы прэса. І гэта першае інтэрв'ю Калахана і Фрыха, і яно праходзіць тут...
Я ведаю, што тут.
І ў мяне спецыяльныя інструкцыі наконт вас абодвух.
А зараз шкындзёхай-це адсюль, пакуль не нарваліся.
Свабоду прэсе!
Балбатлівая дзяўчына атрымае вельмі вялікую дзірку на твары, калі не накіруе сваю дупу прэч адсюль...
Гэта не самае разумнае выра-шэнне, абізгал.
АААА
ХКХФ



Не магу паверыць, што я спыніла кагосьці, каб цябе застрэлілі.
Некалькі месяцаў таму я б нават грошы заплаціла за такое відовішча.
Ройс ніколі не заплаціць табе такіх грошай.
**Елена Расіні**, цяперашняя асістэнтка. А гэта **Шэнан Яроў**... мінулая асістэнтка.
Гэта не выпадковасць.
Не. Я ведала, што ты будзеш прысутнічаць на інтэрв'ю. Ды і жыццё ў царкве Фрэда Хрыста было настолькі жудасным, што я аддала перавагу журналізму.
І... так. Табе гэта спатрэбіцца.
Фрэд заплаціў за апгрэйд памяці Фрыха, каб той змог быць віцэ-прэзідэнтам.
Зараз у Фрэда шмат грошай. Ён сутэнёр, які прадае трансіянтак палітыкам.
Ён атрымае вызваленне ад падаткаў для сваёй царквы, калі абяруць Усмешлівага.
Жыццё манашкі зусім не цукар. Ды і секс там адстой-ны. Але я бачу, табе не патрэб-на асістэнтка...



Асістэнтка ёсць.
Але мне патрэбны целаахоўнік.
Добра. Лічу, мы можам пачынаць... Можаце задаваць пытанні.
callahan
Івар Халгрымсан. Першы навінны канал Амерыкі... Як Фрых ставіцца да трансіянтаў?


Трансіянства сустракае велізарную падтрымку з боку сваіх прыхільнікаў. І мы павінны паважаць гэтую веру. Я лічу, што гэта можа быць свайго роду духоўнай прыгодай…
…вельмі зручнай, улічваючы тое, што Фрэд Хрыстос з'яўляецца стваральнікам **царквы**, ага?
**Спайдар Ерусалім. Ворд.**
Зараз я жадаю паразмаўляць пра Джоша Фрыха.
У Джоша Фрыха няма ніякіх шкілетаў у шафе. Толькі выдатныя запісы.
Джош Фрых займаецца палітыкай трохі больш за два гады.
**Пытанні**, містар Ерусалім, **пытанні**. А гэта не ваш слупок ці мыльнае ТБ-шоў, ну вы разумееце.
Два гады таму Джош Фрых **нават не існаваў**.
У мяне ёсць бясспрэчныя доказы таго, што Боб Хелер вырасціў сваю ўласную палітычную істоту на ферме вырадкаў, тут у горадзе.
Хелер?
Хелер?
Трасца вам у бок: ды яму ж два гады.
Для тых, хто не есць прадукцыю Лонг Піг і не сустракаецца с разумова адсталымі самадайкамі: **фермы вырадкаў вырошчваюць людзей**.
На гэтых жа фермах таксама ствараюцца фальшывыя справаздачы і запісы пра іх – такім чынам яны ствараюць палітыкаў з ідэальна чыстым мінулым.
Джошуа Фрых – гэта цудоўны кандыдат на пасаду віцэ-прэзідэнта. У яго няма шкілетаў у шафе.


Фрыха аддалі Калахану за передачу Хелерам кантролю над Фларыдай.
А калі Фларыда перайшла Калахану, астатнія таксама прагаласавалі за яго.
І зараз я кажу вам, што кандыдат у віцэ-прэзідэнты быў вырашчаны фашыстам.
"Тое, што доктар прапісаў". Сапраўды.
А для таго, каб Фрых карэктна выконаў абавязкі віцэ-прэзідэнта, спатрэбіўся нятанны апгрэйд...
...які аплаціў Фрэд Хрыстос, царкву якога Фрых толькі што хваліў.
І вось маё пытанне:
Сенатар Калахан, вы падтрымліваеце падобнае вырашэнне?


Ну, я...
Усё не так проста...
Мы не... Сенатар Хелер не...
Што я зрабіў табе, Ерусалім?
Мяне ванітуе ад цябе.


the Word
HEADLESS
OCT 17TH
The New CD from
the SAW DOLLYS
mitchell royce
city editor
Патрабую галоўную старонку!
Ты не атрымаеш галоўную старонку!


chase
Хутчэй, Спайдар – яны робяць аб'яву...
Нядрэнна было б. А які цяперашні рэйтынг Усмешлівага?
89% да Ерусаліма. 55%, калі Фрых стаў кандыдатам у віцэ-прэзідэнты.
39%, калі Калахан з'явіўся на публіцы, і ты спытаў яго пра Фрыха.
Праз тры дні – 18%
LIVE
Vita Severn
Approval Rating
92%
Твая сяброўка **Віта**, з іншага боку, мае рэйтынг 92%. І толькі яна з'яўляецца праменем надзеі ў кампаніі Калахана.
Я не здзіўляюся, што яна будзе рабіць аб'яву. Яна – гэта ўсё, што ў іх ёсць.


Гэта магіла Віты Северн?
Што табе трэба?
Бяздушны вырадак. Як наконт "Рады бачыць цябе, Крысцін. Пачаставаць цябе наркатой?"
Яна была палітычным дырэктарам, Спайдар. Мы заўсёды ахвяруем сабой дзеля іншых.
І яна добра выканала сваю працу.
Выконвала сваю працу. Да таго часу, пакуль нейкі вар'ят не забіў яе і не расшчапіў сябе на атамы.
Выканала. Рэйтынг Усмешлівага 78% і працягвае расці. Галасы сімпатызавалых, Спайдар.
Яны кахалі яе. А калі яна загінула, яны перанеслі сваё каханне на яго. Ён жа яе і заказаў.
Я не веру.
Але гэта праўда. Яна б не жадала так далёка заходзіць – але яна выратавала яго кандыдатуру.
А праз некалькі тыдняў з'явіцца гісторыя: "Віта мела, што сказаць пра выбар Фрыха пасля гэтага".
Палітычны дырэктар Алан Шакт будзе адмаўляць усялякую ўцечку інфармацыі, зразумела.
Шакт, як ты ведаеш, быў побач з Калаханам, калі забілі Віту. У будынку.
Гэты год будзе спрыяць вырадкам, Спайдар...
...І іх пешкам.
У наступным нумары:
Новыя падонкі